# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 23 (849) Год XVII БЕЛАСТОК 4 ЧЭРВЕНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.


## ПАЎЛЫ, РЫБАЛЫ і МІХАЛОВА

За намі чарговае культурнае беларускае мерапрыемства: агляд драмгурткоў з беларускім рэпертуарам. Паслухалі і паглядзелі мы на сцэне беларускага клуба ў Беластоку фіналістаў агляду, гэта значыць, тры найлепшыя гурткі: з Міхалова, Рыбалаў і Паўлаў.

Мала! Вельмі мала ў гэтым годзе драмгурткоў прыступіла да павятовых аглядаў! Усяго сем, тры ў Сямяцічкім, па два ў Беластоцкім і Бельскім. А працуе ж іх у год, лічым 60—70. Розныя былі тут аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны, ды нельга не падкрэсліць адной: абыякавасці павятовых аддзелаў да гэтага важнага культурнага мерапрыемства. Асабліва яскрава выйшла гэта ў Гайнаўскім павеце, як вядома, багатым беларускай культурнай дзейнасцю. Або Сакольскі павет — крыніца народных талентаў і форм. Не было там увогуле павятовых элімінацый.

Прабачце аўтару, што нервуецца. Ён таксама чалавек. І аж такой абыякавасці да працы не разумее.

А цяпер аб найлепшых трох калектывах гэтага года: узнагароджаны — Паўлы за «Топтаную зямлю» Марыі Шулецкай у сцэнічнай апрацоўцы Валянціны Амельянюк-Мароз, Рыбалы — за п'есу Кандрата Крапівы «Валодзін гальштук» і Міхалова — за п'есу Янкі Купалы «Прымакі».

Не падважаючы абсалютнай рацыі камісіі агляду, хачу сказаць, што маю сімпатыю заваяваў калектыў з Міхалова. Паставіў вядомую камедыю Купалы (да 90-ай гадавіны з дня нараджэння яго), шматасабовую. Многа разоў ставілася гэтая п'еса нашымі гурткамі, а міхалоўская пастаноўка выйшла адной з лепшых за 16 год дзейнасці таварыства.

Вядомыя ў «Прымаках» «п'яныя» сцэны абмежаваны Міхаловам да мінімуму і не пакідаюць непрыемнага ўражання ў гледача. Зусім добра разыграла Кацярынка найцяжэйшыя, па-мойму, сцэны ў «Прымаках»: калі прыпяваючы ўкладае кветкі ў вазе, калі прыпяваючы падбівае падушачкі. Былі гэта натуральныя сцэны. Максім Кутас — цікавы сцэнічны тып, захутка і невыразна аднак гаварыў. Мацейка міхалоўскі са знаўствам «падрываў» Кацярыну.

Дасканалую ролю солтыса перадаў Станіслаў Палоцкі. Уборы, па народным матывам, падкрэслівалі народны характар беларускай п'есы. Гэтая справа добра прадумана.

У суме культурная, дасціпная пастаноўка, якая паказала вобраз «старых часоў». А Міхалова расце і развіваецца і, калі не звяне іхні энтузіязм і не забудуць пра свае здольнасці, то здаецца мне, зойдуць далёка.

Рыбалы, паводле свайго старога (дзесяць год працуюць) і добрага звычаю паказалі нам партызанскую п'есу поўную справядлівага гневу і бунтарства. Ды маленькая ўвага: не зусім гэты гнеў і бунтарства выйшлі ў Рыбалах. Замала былі яны паказаны.

Добрая была бабка, ой добрая!

Справа ўбораў. Якая розніца ва ўборы Тані і бабкі. Адна замодная, другая за старамодная. Больш рэаліяў у гэтым, помнячы, што акцыя ідзе ў саракавых гадах XX стагоддзя.

Паўлы ўрэшце. Прызвычаіліся ўжо мы, што Паўлы здзіўляюць і гледачоў, і ўвогуле культурны рух. Наватарствам, задумамі, талентамі і вялікай працавітасцю сваёй — 17 год няспыннай працы, многа, многа ўзнагарод і пахвал.

Бачылі б вы, як перадаў сваю ролю дзядзькі Назарука Лявон Харытанюк. З якой вялікай культурай гэты не артыст, але ўнутрана багаты чалавек, выступіў. Як найбольш справядліва ацаніла журы ролю Харытанюка, прызнаючы яму ўзнагароду «Нівы» за найлепшую ролю ў 1972 годзе.

Народнай партызанскай быллю можна б назваць версію Валянціны Амельянюк па аповесці Марыі Шулецкай «Топтаная зямля» пра трагедыю вёскі Райск, 30 год таму назад, калі ўсіх мужчын вёскі і многіх жанчын акупанты расстралялі, ці жывымі паўкідалі ў супольную яму.

Валя для свайго расказу выбрала адзін матыў з багатай аповесці Шулецкай: гісторыю кахання Васі да Олі і трагічную Оліну смерць. Цікавая задума! І вельмі цікава прадуманы лясныя сцэны. На сцэне сапраўдны жывы лес, інтэнсіўны пах сасны і бярозы.

(Працяг на стар. 5)



*Сцэна з «Топтанай зямлі».*



*Сцэна з «Прымакоў».*



*Сцэна з «Валодзінага гальштука».*

## БГКТ хроніка

■ 11 мая ў памяшканні ГП БГКТ, на Варшаўскай, Упраўленне жылых будынкаў у Беластоку арганізавала акадэмію з нагоды 27-ай гадавіны перамогі над гітлераўскай Германіяй. Мастацкай часткай быў канцэрт нашай эстрады «Лявоніхі».

■ 13 і 14 мая гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку з удзелам эстрады «Лявоніхі» арганізаваў маладзёжнае спатканне «Вечарынка ў нашым клубе».

■ Бельскі харавы калектыў БГКТ 13 мая даў канцэрт для работнікаў (у іх памяшканні) рамонтна-будаўлянага камунальнага прадпрыемства свайго горада.

■ 14 мая ў Лясным тэхнікуме ў Белавежы і ў вёсцы Чыжы адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 27-ай гадавіне перамогі над фашысцкай Германіяй, у якіх прынялі ўдзел прыехаўшыя сюды афіцэры Паўночнай групы Савецкай Арміі. Галоўным арганізатарам гэтых мерапрыемстваў быў Гайнаўскі аддзел БГКТ.

■ У салоне выставак у ГП БГКТ экспануецца выстаўка графікі Савецкай Беларусі. З'яўляюцца ёю ілюстрацыі літаратурных твораў (у асноўным баек) беларускіх пісьменнікаў.

■ 20 мая наш паэт Алесь Барскі правёў аўтарскія сустрэчы ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы і пачатковай школе ў Новым Корніне. Вечарам у Доме настаўніка выступіў ён з дакладам на тэму «Сучасная савецкая літаратура». З Алесем Барскім прыехаў і сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк.

■ 21 мая ў памяшканні ГП БГКТ адбыўся цэнтральны школьны конкурс «Беларуская песня — 72», арганізаваны ваяводскай куратoрыяй асветы, Галоўным праўленнем БГКТ і рэдакцыяй «Ніва». Выступіла з песнямі 70 удзельнікаў (аб гэтым шырэй у наступным нумары «Нівы»).

■ 21 мая адзначалася ў нашай краіне Народнае свята. На ўрачыстасці ў Шудзялаве на Сакольшчыне эстрада ГП БГКТ «Лявоніха» выступіла з канцэртам.

■ Раз у тыдні ў Міхалове адбываюцца рэпетыцыі харавога калектыву БГКТ. Не ўсе члены хору сістэматычна прыходзяць на рэпетыцыі. Неабходна, каб дапамог мясцовы турток БГКТ. (мх)

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### ВАЖНЫ ДАГАВОР

У суботу 27 мая г.г. у Маскве Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. Брэжнеў і Прэзідэнт ЗША Р. Ніксан падпісалі дагавор паміж СССР і ЗША аб абмежаванні сістэмы супрацьракетнай абароны. Гэта адно з найвялікшых падзей не толькі візіту Ніксана ў СССР, але і адно з найвялікшых падзей у пасляваеннай палітыцы паміж дзвюма магутнымі дзяржавамі свету.

Падпісанне дагавору з'яўляецца падзеяй, якая будзе мець пазітыўныя вынікі для развіцця міжнароднай абстаноўкі.

Абмежаванне ракетна-нуклеарных стратэгічных узбраенняў памяншае небяспеку тэрмаядзернай вайны. Пазбегнуць такой вайны, усцерагчы насельніцтва ад такой страшэннай пагрозы — гэта адно з асноўных заданняў супольнай лініі сацыялістычных краін.

Гэты дагавор абазначае таксама затармажэнне гонкі стратэгічных узбраенняў, і таму мае асноўнае значэнне для ўстрымання ўвогуле гонкі ўзбраенняў. Пакласці канец гэтай гонцы — таксама супольная лінія сацыялістычных краін.

І ўрэшце само дасягненне такога важнага дагавору мае пазітыўны ўплыў на змяншэнне напружання міжнароднай абстаноўкі, спрыяе прагрэсу і супрацоўніцтву, мірнай урэгуліроўцы праблемаў.

### ЗА АБ'ЯДНАННЕ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ

Дэлегацыі Французскай камуністычнай партыі і Ўсеагульнай канфедэрацыі працы правялі сустрэчу, дзе абмеркавалі пытанні цяперашняга становішча, а таксама дэмакратычныя і сацыялістычныя перспектывы ў Францыі.

У сумеснай заяве ФКП і УКП пацвярджаюць сваю рашучасць зрабіць усё неабходнае для хутчэйшага дасягнення саюза левых сіл на аснове сумеснай урадавай праграмы. Дэмакратычнае кіраванне эканомікай і палітычная ўлада, якія абапіраюцца на працоўныя класы, — такія павінны быць галоўныя асновы гэтага пагаднення.

### РЭСПУБЛІКА ШРЫ ЛАНКА

24 мая г.г. у Кандзі, старажытнай сталіцы Цэйлона, дзе больш за 150 гадоў развяваўся англійскі сцяг, адбылася ўрачыстая цырымонія падняцця нацыянальнага сцяга Рэспублікі Шры Ланка. Першым прэм'ер-міністрам Рэспублікі стала пані Сірымава Бандаранаіке.

### НАМЕРЫ ЧЭХАСЛАВАЦКАЙ МАТАРЫЗАЦЫІ

Прадбачваецца, што ў бліжэйшых гадах будзе павялічвацца запатрабаванне на чэхаславацкія самаходы за межамі гэтай краіны. Прымаючы пад увагу гэты факт, чэхаславацкая аўтамабільная прамысловасць мае павялічыць у бягучай пяцігодцы прадукцыю ў параўнанні з 1970 годам на 39 працэнтаў. У 1971 — 1975 г.г. Чэхаславакія выпрадукуе, між іншым, 785 тысяч легкавых аўтамабіляў, не ўлічваючы грузавых аўтамашын, аўтобусаў і матацыклаў. (А.К.)



## БССР

### АКАДЭМІЯ Ў ГОРКАХ

Горкі — раённы гарадок на Магілёўшчыне. Вясной ён патанае ў квецені садоў і зеляніне дрэў. Але славу для Горак заваявала Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія. Рэдка ж здараецца, каб раённы гарадок быў акадэмічным цэнтрам, а горацкая акадэмія існуе ад 1836 г. і з'яўляецца першай сельскагаспадарчай навучальнай установай у Беларусі. Цяпер акадэмія ў Горках — буйнейшы цэнтр вышэйшай сельскагаспадарчай адукацыі. На адзінаццаці яе факультэтах вучыцца больш як 10 тысяч студэнтаў, здабываючы адукацыю па 13 спецыяльнасцях.

### СМАРГОНСКІЯ САМАДЗЕЙНІКІ

У дні падрыхтоўкі да 50-годдзя з дня ўтварэння Саюза ССР значна ажывілі сваю творчую дзейнасць калектывы мастацкай самадзейнасці. Асабліва актыўна рыхтуецца да слаўнага юбілею Смаргонскі народны ансамбль песні і танца імя Агінскага. Нядаўна ён выступаў у раённым цэнтры. Вялікае ўражанне на гледачоў зрабілі вакальна-харэаграфічныя кампазіцыі «Смаргонскія абаранкі» і «Паланез Агінскага».

### 16 000 КІЛАМЕТРАЎ З МУЗЫКАЙ

Дзяржаўны народны аркестр Беларускай ССР праводзіць вялікую гастрольную паездку па краіне Саветаў. За ім 16 000 кіламетраў. Ён ужо выступіў перад жыхарамі Баку, Красна-горска, Неіт-Дага, у казахскіх стэпах і памірскіх далінах, у Самаркандзе, Ташкенце, Фрунзе, у далёкіх горных раёнах Цянь-Шаня. Асабліва сардэчна віталі беларускіх музыкантаў у саўгасе «Бярозаўскі», які знаходзіцца ў Заходнім Казахстане, дзе жыве шмат беларусаў, якія ў 50-ых гадах паехалі асвойваць цаліну.

### ДНІ БАЛГАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

22 мая пачаліся ў Беларусі дні балгарскай літаратуры. Арганізатарамі іх з'яўляюцца Саюз пісьменнікаў Беларусі, Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, аддзяленне таварыства «СССР — Балгарыя». З гэтай нагоды 23 мая ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў Мінску адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны святу балгарскай культуры і славянскай пісьменнасці. У вечары прынялі ўдзел прадстаўнікі ЦК КПБ і ўрада БССР. Прысутны быў таксама генеральны консул ПНР у Мінску А. Валяшэк.

### ДЛЯ ПАТРЭБ ХЛЕБАРОБАЎ

Набліжаецца гарачы сезон палявых работ. Канструктары сельскагаспадарчай тэхнікі думаюць пра тое, каб аблегчыць працу ў полі. Вядома, для прыкладу, што сельская гаспадарка вельмі патрабуе машын, якія могуць працаваць на высокіх хуткасцях і за адзін праход выконваць некалькі аперацый. Гэтым запатрабаванням поўнасцю адпавядае сіласаўборачны камбайн «Віхор» і камплект-агрэгат «Сож», якія стварылі інжынеры «Гомсельмаша». (вр)




### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО ЦК ПАРП

23 мая г.г. адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім была разгледжана праграма рэалізацыі інвестыцыяў асноўных гаспадарчых рэсортаў у гадах 1972—75 і праграма далейшага развіцця энергетычнага патэнцыялу.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ ДЗЯРЖАВЫ

26 мая г.г. адбылося пасяджэнне Рады Дзяржавы, на якім быў ратыфікаваны дагавор між Польскай Народнай Рэспублікай і Федэратыўнай Германскай Рэспублікай аб далейшым мірным суіснаванні абедзвюх краін.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

26 мая г.г. адбылося пасяджэнне Рады Міністраў з удзелам старшынь прэзідыумаў ваяводскіх рад нарадовых. На пасяджэнні была праведзена ацэнка рэалізацыі важнейшых задач Нацыянальнага гаспадарчага плана за перыяд студзень—красавік гэтага года. Паводле яе, задачы, намечаныя ў гадавым плане, выконваюцца паспяхова. Сістэматычна замацоўваецца рынкавая раўнавага, паляпшаецца забеспячэнне рынка, растуць даходы людзей і г.д. Прамысловасць выканала за чатыры месяцы 33,4 працэнта гадавога плана.

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

24 мая г.г. І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў сталіцу тэкстыльшчыкаў — Лодзь. Правёў ён сустрэчу з экзекутывай Лодзінскага камітэта ПАРП, на якой былі абмеркаваны праблемы, звязаныя з рэалізацыяй праграмы развіцця і мадэрнізацыі Лодзі. Пасля сустрэчы ў Ваяводскім камітэце ПАРП Э. Герэк правёў сустрэчу з палітычна-гаспадарчым актывам тэкстыльных прадпрыемстваў, а затым знаёміўся з прадукцыяй першай лодзінскай фабрыкі дамоў.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ БУДАЎНІКОЎ У Э. ГЕРКА

23 мая г.г. І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк правёў сустрэчу з дэлегацыяй будаўнікоў у сувязі з святкаваннем Дня будаўніка. Прадстаўнікі розных рабочых калектываў паінфармавалі Э. Герка аб найважнейшых праблемах у сваёй штодзённай працы, аб дасягненнях у галіне пабудовы новых жылых дамоў і гарадскіх раёнаў. На заканчэнне сустрэчы І сакратар ЦК ПАРП пажадаў будаўнікам яшчэ лепшых поспехаў у працы і асабістым жыцці.

### НАРАДА САКРАТАРОЎ ВК ПАРП

25 мая г.г. адбылася нарада арганізацыйных сакратароў ваяводскіх камітэтаў ПАРП з удзелам члена Палітбюро, сакратара ЦК ПАРП Э. Бабюха. Нарада прысвячалася актуальным праблемам партыйнай працы на вёсцы, замацаванню грамадскіх звенняў партыі, а таксама ўдасканальванню стылю і метадаў працы партыйных арганізацый і інстанцый.

### ЦЭНТРАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ

27 мая г.г. адбылася ў Глогаве цэнтральная акадэмія з нагоды святкавання Дня будаўніка. У акадэміі прымаў удзел прэм'ер П. Ярашэвіч, які выступіў з прамовай. Затым найбольш заслужаным будаўнікам былі ўручаны высокія дзяржаўныя ўзнагароды. (яц)




### ЮБІЛЕЙ «ПРАМЫСЛОЎКІ»

Беластоцкае прадпрыемства прамысловага будаўніцтва адзначыла свой юбілей — 25-годдзе дзейнасці. Гэтае прадпрыемства, папулярна званае «Прамыслоўка», адбудоўвала Беласток і ваяводства, яго прамысловыя і грамадскія аб'екты. Першымі былі будынкі па вуліцы Кілінскага, беластоцкі бровар, будынак банку на Варшаўскай і іншыя. Пазней — будынак ФПіУ, а яшчэ пазней — «Фасты». Цяпер беластоцкая «Прамыслоўка» будуе найважнейшыя прамысловыя аб'екты ва ўсіх гарадах нашага ваяводства.

### ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

У прэзідыуме ВРН у Беластоку адбылася прэс-канферэнцыя на тэму падрыхтоўкі нашага ваяводства да турысцкага сезону. Інфармавалі намеснік старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч і кіраўнік аддзела гандлю прэзідыума ВРН Т. Свідзінскі. Аб падрыхтоўцы да летняга адпачынку дзяцей інфармаваў куратар беластоцкай школьнай акругі Э. Крынскі.

Цяпер галоўны напрамак у гэтай працы — максімальнае забеспячэнне галоўных турыстычных раёнаў таварамі. Шмат увагі звернута на святочны адпачынак для працоўных.

### ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

Ад 19 да 29 мая на Беласточчыне праходзіла дэкада працы грамадскім чынам. Асабліва актыўна ўключыліся ў працу ў Беластоцкім павеце. Працавалі пры паляпшэнні дарог, рамонтах святліц і раміз, удзельнічалі ў працах на будовах дамоў для настаўнікаў, у прыстасоўванні будынкаў для пунктаў аховы здароўя.

### ФІНАЛ КОНКУРСУ

28 мая ў Беластоку адбыўся фінал конкурсу «Ідэі ППР вечна жывыя». У мясцовых конкурсах, якія папярэдзілі фінал, удзельнічала 39 590 чалавек. На павятовыя конкурсы было дапушчана 678 чалавек. У ваяводскім фінале найлепшыя веды аб партыі паказала Крыстына Дзеніс — працаўніца фабрыкі «Тэльза», II месца заняў працаўнік прэзідыума ГРН у Козінцах (Беластоцкі павет) Т. Паплаўскі, III — Ю. Палка з Алецка. Актывіст БГКТ Мікола Матэйчык з Гарадка заняў пятае месца.

### ДЗЕНЬ ДЗЕЯЧА КУЛЬТУРЫ

27 мая ў Суражы адбылася ваяводская ўрачыстасць у сувязі з Днём дзеяча культуры. Аддзел культуры ПВРН вырашыў ваяводскія ўрачыстасці, звязаныя з Днём дзеяча культуры, штогод адзначаць у малых мясцовасцях. Сёлета быў выбраны дом культуры ў Суражы, які ў апошні час добра працуе. Наведваючы штогод розныя цэнтры культуры ў паветах, дзеячы культуры змогуць лепш пазнаёміцца з працай у розных асяроддзях, лепш дзяліцца вопытам. На ўрачыстасці шэраг дзеячоў культуры атрымала высокія дзяржаўныя ўзнагароды.

### ДЗЕНЬ ДРУКАРА

27 мая адзначалі свой дзень працаўнікі паліграфіі. Беластоцкія друкары ўпершыню вітаюць сваё свята ў новай, па-сучаснаму абсталяванай друкарні. Ёсць на Беласточчыне яшчэ і малыя друкарні: у Беластоку, Бельску, Ломжы, Сувалках і Элку. Усім друкарам жадаем далейшых поспехаў. (яч)




**Niedziela 4.VI.**
8.00 Program dnia. 8.05 TV Kurs Rolniczy: „Higiena wody pitnej w produkcji zwierzęcej". 8.40 „Przypominamy, radzimy". 9.00 Klub Śmiałych. 10.15 „Jest taka dolina w Górach Skalistych" — film („Świat, który nie może zaginąć"). 10.45 „Godzina z Kozincewem" — film („Czas i ludzie"). 11.45 Dziennik. 12.00 Claude Debussy: „Pudełko z zabawkami" — balet dla dzieci. 12.30 „Przemiany". 13.00 Dla dzieci: „Co to jest?" — konkurs-zabawa. 13.50 „Tajemnica pieczęci Kopernika" („Śladami zabytków"). 14.15 „Piosenki w mundurze". 14.55 Sprawozdanie z finałowego meczu piłki nożnej o Puchar Polski Górnik (Zabrze) — Legia (Warszawa). W przerwie ok. 15.45 PKF. 16.50 „U Hipolita po fajerancie" — rep. film. 17.20 ,Stare porachunki" — film fab. (western). 18.20 „Piórkiem i węglem". 18.45 „Wieczorem, pewnego czasu" — program słowno-muzyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Arsen Lupin" — film franc. 21.00 „Melodie Wielkiego Ekranu". 22.00 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 5.VI.**
15.20 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 18.00 „Cichy bunt" — film dok. ang. 18.25 „Tatarzy polscy" — film dok. TVP. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J.Janicki — „Tatko". 21.25 Publicystyka międzynarodowa. 21.50 Recital skrzypcowy — Tadeusz Gadzina gra utwory Paganiniego. 22.15 Dziennik.

**Wtorek 6.VI.**
10.00 Dla szkół: (kl. IV) „W stoczni gdańskiej". 10.20 „Ruchome piaski" — film fab. pol. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Jak powinniśmy się odżywiać". 15.20 i 22.50 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „W gąszczu spraw" — program wiejski. 17.10 „Oferty". 17.30 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Ruchome piaski" — film fab. pol. 21.25 Program filmowy. 21.50 „Dysk i pióro" — rep. film. 22.25 Dziennik.

**Środa 7.V.**
9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Rozszerzalność ciepła". 10.25 „Wyrok" — film czechosł. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Metalurgia". 13.40 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Latający Holender", „Ludzie z różnych stron świata" — film. 17.30 „DO-RO" („Polak pracuje"). 18.00 „Sylwetki X Muzy" — Lidia Wysocka. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Tropem 20 miliardów" program ekonom. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wyrok" — film czechosł. odc. I. 20.50 PKF. 21.00 „Świat i Polska". 21.30 „Artyści, których podziwiamy" — Lidia Grychtołówna. 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 8.VI.**
8.15 Matematyka w szkole: „Wstęp do teorii informacji". 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Naczelnik w sukmanie". 9.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „Nasz dzień powszedni". 10.55 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Język polski „Wydarzenia filmowe sezonu". 15.20 i 22.30 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.40 ITP. 17.50 „Po roku w porcie północnym" („Morskie spotkania"). 18.20 TV Kurier Białostocki. 18.40 Program estradowy. 19.05 „Turystyka i wypoczynek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy". 20.05 Teatr Sensacji: F. Durbridge — „Harry Brent" odc. II. 21.15 „Fabryczne mieszkanie..." („Mieszkaniowe progi"). 21.45 „Ekspress" czyli kabarecik kolejowy nr 1. 22.05 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Piątek 9.VI.**
8.00 TV Kurs Rolniczy: „Pytania i odpowiedzi". 9.20 „Car i generał" — film fab. bułg. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Polska i świat". 11.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie plastyczne — „Jedność sztuki". 15.20 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 Magazyn Medyczny. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 „Kraj". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Festiwal Piosenki Radzieckiej w Zielonej Górze — Koncert Przyjaźni. W przerwie ok. 21.30 Dziennik.

**Sobota 10. VI.**
9.00 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Afryka". 9.55 Dla szkół: (kl VI) Geografia — „Podróżuj LOT-em". 10.25 „Sędzia Fulton" — film fab. ang. 15.30 Program dnia. 15.35 Program I proponuje. 15.55 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza: M. Nowakowski — „Skok". 17.45 „Nad Odrą, nad Nysą" — program poświęcony żołnierzom WOP-u. 17.55 „Spotkania z przyrodą". 18.20 „Godzina Orfeusza" — mag. aktualności muzycznych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Festiwal Piosenki Radzieckiej w Zielonej Górze — Koncert Laureatów. W przerwie ok. 21.30 Dziennik. Wiadomości sportowe. 23.20 „Sędzia Fulton" — film. fab. ang.




**Piątek, 2 czerwca**
13.55 Program dnia. 14.00 W świecie nauki i techniki. 15.20 Chabarowsk. 15.30 Bajka dla dzieci. 16.00 Panorama nowin. 16.10 Włoscy pisarze w Moskwie. 17.00 Filmy animowane dla dzieci. 17.50 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. 20.45 Podróż TV. 21.45 Nowiny.

**Sobota, 3 czerwca**
7.00 Program dnia. 7.35 Nowiny. 10.30 Koncert. 11.00 Przegląd międzynarodowy. 11.15 Ziemia i ludzie. 11.45 Szkatułka muzyczna. 12.30 Film fab. 14.00 Panorama międzynarodowa. 14.30 Białe i czarne. 17.45 Nowiny. 17.55 Piłka nożna. „Dynamo" (Kijów) — „Dynamo" (Moskwa). 19.00 Czas. 19.30 Film fab. 20.35 Koncert estradowy. 21.10 Nowiny.

**Niedziela, 4 czerwca**
7.00 Program dnia. 7.20 Nowiny. 8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 W świecie wynalazków. 9.30 Film animowany dla dzieci. 11.30 Film fab. 12.50 Dla żołnierzy. 13.50 Międzynarodowe zawody wioślarskie. 16.00 Nowiny. 16.30 KWZ-72. 19.00 Czas. 19.30 Film fab. 20.35 Klub filmowy.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 162

# АДАМАВА ПАМЫЛКА

Ужо Адам ў варотах раю,
Калі пачуў штуршок тварца,
Пытанне годнасці паставіў
Як сэнс разумнага жыцця.

Але ў пытанні не адолеў
Ён рацыянальнага ядра.
Абвінавацім ў гэтым долю,
Пітэкантрапам быў Адам.

Прыбіты воляю старога,
З атрутнай крыўдай у грудзях,
Забраўся ў Евіну бярлогу,
Людскому роду даў працяг.

Ты ведаў толк ў жаночых справах,
У іх ты першы быў мастак.
Якім жа, я пытаю, правам
Спаліў ты за сабой масты?

Не быў бы ты на той паверцы
Ў гарачай купаны вадзе,
Мабыць, былі б мы з лепшым сэрцам,
З мацнейшай воляй у бядзе.

Мабыць, жылі б мы без інтрыгаў,
Без хітрасці і без зняваг.
Ніхто б на нас нідзе не дыбаў,
І быў бы страх ужо не страх.

Начальнік быў бы не начальнік,
І радавы не радавы,
І лікаў не было б спрачальных
У справаздачах гадавых.

Мо найвышэй цанілі б слова,
І лаяць не было б каго,
І ў мірным трэску дроў яловых
Шквальны не мроіўся б агонь.

Агонь вялі бы мы прыцэльны
Па шчыльнай вірусаў брані,
Тады б і жар грыбоў з патэльні
Не рос ў страшэнныя агні.

Над намі гойдаецца атам.
І заўтра з хісткага крука
Можа без цяжкасці зарад той
Сарваць шалёная рука.

Мы задыхаемся ў падзеях,
Кожнаму сніцца свой парад.
Мы з кожным годам разумнеем
І з кожным годам йдзем назад.

Ідзем, натхнёныя там-тамамі,
Разгортваючы на хаду
Адменна годную, Адамаву,
Пітэкантрапску бараду.

**Юрка Зубрыцкі**



# ЗАХАД СОНЦА

Захад сонца
так сумна
сачыць.
Чырвонае сонца
адбіваецца
ў вачах.
Яго блеск
пранікае паволі
да сэрца.
Яго засынаючыя
прамені
асвятляюць
цёплае неба,
як чалавек
украшае свет
астатнімі
праменнямі
свайго жыцця.
Астаткамі сіл сваіх
кладуцца
на зямлю,
зачапляюцца
за хмары...
...але безнадзейна.
усё больш і больш
стаюцца смешнымі,
іх матка — сонца
цягне ўніз.
У палавіну яблыка
сонца
пераўтвараецца,
дакладна у свой час
адыходзіць,
каб даць прыклад
адпачынку
пасля працы.
Спіць яно
коратка,
вельмі коратка,
праз адну хвіліну.
праз адну хвіліну — мінуту.
Пасля перакідае
свае
дзеці-прамені,
на другую палавіну
жыцця,
жыцця далёкіх
нашых сяброў.
Ох!
Як цяжка расставацца з табой!



**Ніна Гаўрылюк**

# ПЕСНЯ МОРУ

У яркім сонцы жмурацъ вочы хвалі,
Спакойным днём дышыць пясчаны бераг,
Разгойданыя воды марской далі
Адвечнай песняй коцяцца наперад.
І, затаіўшы вочы ў тайны-далі,
Стаю зачараваная, як казкай.
І раптам тоні жудаснымі сталі,
А мора у адказ дыхнула ласкай.
Да самых ног скацілася з паклонам,
Цалуе шчодра на пяску сляды,
Кальцша плескам ў такт за сэрца звонам.
Расце прызнанне ў глыбіні душы:
Заўсёды буду помніць рэзкі водар
Тваіх салёных белагрывых хваль
Гудкі баркасаў, матчы параходаў
І гарызонту шэра-сіні шаль.
Запомню захад: вечны шум прыбою,
І сонца — вогненны, чырвоны круг агню,
Што з гарызонтам звісне над вадою
І патанае ціха ў глыбіню.

*

Калі хоць раз парою ўбачыш мора,
Табе яго ў жыцці ўжо не забыць.
Даль — просінь хваль зялёных на прасторах
Будзеш у думках вобразам насіць.
Ты будзеш спаць пад гоманы прыбою,
Пад легендарны тон яго балад.
Ты будзеш сніць, як хвалі струны строяць
І паэтычна йграюць на свой лад.
Да гэтых муз марскіх, зялёнавокіх
Ляцець на крылах буду кожны год.
Сімфонія мора сэрцам адзінокім —
Падвояй шчасця, гімнам асалод.

**З. Стаськевіч**

# ПРЫДІ...

Прыді
учуеш
як б'е нашэ сэрце
прыді
учуеш
як говорат нашы рукі
а на полі...
(зобач воно аж там до ліеса
такое вэліке мы напішэм
нам хватіт сёго папэру
мы слідамі мы оддэхом).
а на полі
мы тішыною
ксёнжку напісалі
а ў ліесі
мы дэрэвам
косы посплетаем
і ў скупому
сінёму
озёркові нэба
рукі вымієм
і ногі поспускаем
у воду
як корієне
прыді...

**Зося Сачко**





* * *

Мы жывем. Якая радасць гэта.
Мы жывем, як антытэза да прадметаў.
Адчуваючы, мы бачым, ходзім
Па зялёнай сферы быту.

Мы жывем. Аднойчы і нікуды.
Мы жывем, кахаючы істоты,
Полем ходзім і ракой вандруем,
Вяжам ва ўспаміны ніткі сушанага лета

Радуемся усяму на свеце,
У жыцці бываючы неспадзяваным госцем...
І праходзячы праз Стыкс па мосце,
Бачым найвыразней часу вецер.

А пакуль жывем — няхай са звонам
Расшчапляюцца ў лабараторыях атомы.
Мы жывем і кожну сілу невядомую
Мы гатовы запрагчы ў сані фатановыя.

**Я. Чыквін**

I

У вечнай спрэчцы
між зямлёй і фразай
праўда маўчыць,
мана гаворыць.
Зямля — егіпецкая ваза,
напоўнена маўчаннем зорак.
А мы са слоў,
мы з балбатання.
Мы з крыкаў,
гутарак
і сварак.
Не любім простага маўчання,
мы словам яго б'ем па твары.
Зямля маўчыць,
вядома, маці,
а мы лапочам і лапочам.
Як навучыцца, не баяцца —
маўчаць у вочы.

II

Ад зямлі мы аддзелімся
тратуарамі, ботамі
і сухою нагою
праз эпоху пакрочым,
а далёка дзяцінства
з сялянскімі потамі
і жаданыя ночы.
Значыць тое, што нас
пракарміла і песціла,
так, як лес, як траву,
як казюлек і мошак,
што у сэрца ўлівалася
добраю песняю —
прамянялі на грошы.
Мы, з дубровы бяроз,
мы, з святыні вячыстай,
разлюбілі зямлю,
пакахалі палацы
і ходзім па свеце
тратуарамі чыстымі —
каралі,
а ў істоце — паяцы.

**Алесь Барскі**



# НА МЕСЦЫ ДРЫГВЫ

Там, дзе ўзнімаліся хмары камароў, дзе была дрыгва з іржавай вадой, паявіліся шырокія палоскі равоў, з якіх дабываецца торф. А паміж гэтымі равамі ўложаны рэйкі, і маленькія паравозікі возяць ваганеткі, нагружаныя цэглямі тарфянога багацця. Тарфяныя брылы ў форме цэглы ўкладваюцца для прасушкі ў велізарныя горбы. Як высахнуць, рабочыя запаўняюць імі ваганеткі і вязуць іх у спецыяльна пабудаваную тут фабрыку, у якой торф раздрабняецца, ачышчаецца ад карэнняў і спецыяльнымі машынамі насыпаецца ў пачкі, якія называюцца балётамі. На адну тону трэба 25 або 30 балётаў. Ёсць і меншыя балёты.

Балёты высылаюцца на экспарт, найбольш у Аўстрыю і Югаславію. Заграніца ахвотна купляе торф з «Імшару», таму што багаты ён баравінай, якая дасканала лечыць рэўматызм.





### НА ЗАКЛІК ПАРТЫІ І ЎРАДУ

Прадпрыемства ў апошнія гады стала больш рэнтоўнае. Пасля звароту Сакратарыята ЦК ПАРП і Прэзідыума ўрада наконт дадатковай прадукцыі ў 20 мільярдаў зл. калектыў прадпрыемства на чале з дырэктарам Кастусём Майсенем абавязаўся ў першым квартале 1972 года працаваць так, каб даць на 400 тыс. зл. прадукцыі больш, чым прадбачваў план. Абавязацельства было выканана датэрмінова. І далей увесь калектыў прадпрыемства «Імшар» самаахвярна працуе, перавыконвае нормы і планы.

### ДОБРАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПРАЦЫ

У гэтым вялікая заслуга дырэкцыі прадпрыемства, якая ўмее належна арганізаваць працу. Дабыванне торфу ідзе ў дзве змены, а праца на фабрыцы пры яго пераапрацоўцы часам нават у тры змены. Планы выконваюцца і перавыконваюцца тут таму, што рабочыя добра працуюць. А працуюць добра таму, што бачаць справядлівую іх ацэнку, бачаць клопаты дырэкцыі аб сваім калектыве. Яшчэ да нядаўна роскрышам торфу ніхто не цікавіўся. Ляжаў ён большымі ці меншымі пластамі на выкарыстаных тарфянішчах. Цяпер роскрыш збіраюць у мяшкі і высылаюць яго як высакаякасны торф у Варшаўскае, Вроцлаўскае і іншыя ваяводствы. На ім добра растуць кветкі і ранняя агароднiна. За гэтае наватарства ў выкарыстоўванні роскрышу прадпрыемства атрымала ўзнагароду (неяк толькі ў Беластоцкім ваяводстве мала ёсць зацікаўлення тарфяным роскрышам).

Уводзяцца тут удасканальванні з той мэтай, каб праца была больш эфектыўная. Напрыклад, зменшана колькасць людзей пры разбіранні тарфяной горбы. Раней працавала 10 рабочых. Зараз гэтую самую работу выконваюць тры чалавекі. Паляпшаецца таксама і спосаб капання торфу. Варта яшчэ было б падумаць аб тым, каб на фабрыцы менш дакучаў рабочым тарфяны пыл.

### ЦЯЖКАСЦІ З ДАЕЗДАМІ ДА ПРАЦЫ

«Імшар» стаў даходным месцам і для дзяржавы і для людзей навакольных вёсак. У сезоне, гэта значыць, ад мая да лістапада, працуе тут амаль 300 чалавек, а часам нават больш. У несезонныя месяцы працуе 120 чалавек. Заробкі на прадпрыемстве даволі добрыя. У сярэднім 2000—3000 зл. І таму прыязджаюць сюды працаваць людзі з такіх далёкіх вёсак, як Ялоўка, Шымкі, Цісоўка, Цыванюкі і іншыя. На жаль, з даездамі да працы ёсць цяжкасці. Прадпрыемства ўжо даўно стараецца купіць аўтобус, каб аблегчыць людзям даезды, але аб прыдзеле яго пакуль што нічога не чуваць. Вялікай перашкодай з'яўляецца таксама недахоп аўтобуснага спалучэння Сушча — Новая Воля. Другая справа. У Цісоўцы на чыгуначным прыпынку няма пачакальні, а цягнік хранічна спазняецца.

### КАБ ЛІКВІДАВАЦЬ СЕЗОННАСЦЬ ПРАЦЫ

Другая істотная справа, якая неадпаведна ўплывае на прадукцыйнасць працы, гэта сезоннасць працы. Людзі хочуць мець працу на прадпрыемстве ўвесь год, і таму некаторыя памінаюць добрую працу ў «Імшары». Пакуль што на гэта няма рады. Але дырэкцыя даўно ўжо мае цікавыя думкі. Ёсць прапановы, каб на выкарыстаных тарфянішчах пабудаваць шкляныя цяплярні, дзе цэлы год, асабліва зімою можна было б вырошчваць раннюю гародніну і кветкі. Не так далёка Беласток. Мог бы ён з «Імшару» атрымоўваць ранняя памідоры, агуркі, радыску, капусту, цыбулю і кветкі, якіх у зімовую пару няма замнога ў нашым горадзе. А на прадпрыемстве была б цалкам ліквідавана сезоннасць працы. Справа гэта варта ўсебаковай падтрымкі і таму, што ў будучыні, прыкладна праз год 15, запасы торфу з баравінай скончацца (такая ацэнка спецыялістаў), і гэты вялізны кусок зямлі неабходна выкарыстаць. Глеба яго як быццам толькі чакае пасеваў такога роду культур.

*Міхась Хмялеўскі*
*Фота Я. Цялушэцкага*

# 10 ПЛЁННЫХ ГОД

Ва ўрачыстай атмасферы ў актавым зале Беластоцкай медыцынскай акадэміі 12—13 мая адбылася Юбілейная сесія Беластоцкага навуковага таварыства, скліканая для адзначэння Х-годдзя гэтай арганізацыі.

З нагоды юбілею ў прызнанне заслуг у вывучэнні Беласточчыны сямі членам БНТ прысвоены адзнакі «Заслужаны Беласточчыне». Сярод адзначаных знаходзіцца праф. др Антаніна Абрэмбская-Яблонская — заснавальніца кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і аддзела беларускай філалогіі ў Інстытуце славяназнаўства Польскай акадэміі навук, якая мае вялікія заслугі ў вывучэнні моўных з'яў Беласточчыны.

Старшыня Беластоцкага навуковага таварыства дац. др Люцыян Вісьнеўскі ў сваім дакладзе прадставіў дасягненні таварыства ў гадах 1962—1972.

Пачаткова ў таварыстве было ўсяго 15 членаў, але з бегам часу яго высакародныя заданні і атракцыйнасць нашага, амаль зусім недаследаванага ў мінулым рэгіёну прыхілілі да гэтай арганізацыі значную колькасць вучоных з розных вышэйшых навучальных устаноў і навуковых цэнтраў краіны. Сёння ў БНТ уваходзіць 299 членаў, якія працуюць у 16 праблемных камісіях. На працягу дзесяці год БНТ выдала 7 тамоў свайго органа «Acta Baltico-Slavica», 15 наасобных манаграфій з розных галін навукі, матэрыялы і даследаванні па гісторыі паветаў Сэйны, Сувалкі, Аўгустоў, І і ІІ тамы (трэці знаходзіцца ў друку) па гісторыі горада Беластока, першы том перыядычнага выдання «Folia Medica Bialostocensia». У тым жа часе члены БНТ апублікавалі значную колькасць манаграфій, прац і артыкулаў у іншых выдавецтвах. Для прыкладу, члены мовазнаўчай камісіі БНТ, якую ўзначальвае праф. др А. Абрэмбская-Яблонская, апублікавалі звыш 65 паасобных выдавецкіх пазіцый, даследаванняў і артыкулаў, прысвечаных лінгвістычнай праблематыцы Беласточчыны.

Беластоцкае навуковае таварыства ўтрымоўвае сувязі з навуковымі цэнтрамі і арганізацыямі іншых краін.

Асабліва плённае супрацоўніцтва звязвае БНТ з вучонымі Савецкага Саюза. У верасні 1965 г. праўленне таварыства арганізавала ў Беластоку польска-савецкі сімпозіум, прысвечаны балта-славянскім сувязям у ранім сярэдневякоўі. У працы сесіі БНТ, прысвечанай 50-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, прынялі ўдзел прадстаўнікі Акадэміі навук Беларускай ССР і Акадэміі навук Літоўскай ССР. Частымі госцьмі Беластоцкага навуковага таварыства з'яўляюцца савецкія вучоныя, якія прыбываюць у Беласток з дакладамі і лекцыямі. У сваю чаргу члены БНТ наведваюць Савецкі Саюз.

У праграме двухдзённай юбілейнай сесіі БНТ былі даклады, прысвечаныя навуковым дасягненням і заслугам у развіцці Беластоцкага навуковага таварыства праф. Вітальда Славінскага — заснавальніка і першага старшыні таварыства і др Ежы Антаневіча — першага генеральнага сакратара БНТ, адбыўся таксама сімпозіум аддзела медыцынскіх навук, семінар, прысвечаны праблемам педагогікі, сесія камісіі гісторыі бібліятэк, выдавецкай справы і друку БНТ і сесія эканамічнай камісіі БНТ.

Юбілейная сесія БНТ пасведчыла вялікую навуковую актыўнасць членаў таварыства і іх каштоўную працу па вывучэнню Беласточчыны.

*І. Снарскі*

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

### ЯН ЧАЧОТ — ЧАСТКА III

У 1864 годзе выдаў Чачот апошні, шосты том зборніка «Piosenki wieśniacze». Зборнік гэты прадстаўляе найбольшую з усіх фармальную, зместавую і навуковую вартасць. Том складаўся з вялікага ўступу, ста беларускіх, арыгінальных песень, беларускага слоўніка.

Ва ўступе да гэтага тома Чачот зноў звяртаецца да чытачоў, заахвочваючы іх да збору фальклору на Беларусі. Закранае таксама справу збору не толькі песень, але і казак. Скардзіцца, што сам не такога добрага здароўя, не можа многа зрабіць у галіне збору казак. Апрача гэтага, наракае на тое, што адносіны з боку сучасных да казак вельмі неўласцівыя.

„Czyniłem już niewielkie starania o zebranie basien, ale nikt ich u nas nie ceni, jeszcze i pomocy skutecznej nie okaże, a sam przy błahym zdrowiu i podobnym lekceważeniu tych płodów wyobraźni narodowej i zabytków starożytności nie zdołam dotąd zająć się tym miłym i pożytecznym dla literatury krajowej trudem (Piosenki wieśniacze. Wilno 1846 s. XXVIII).

У прадмове да шостага тома, і гэта было новым элементам у параўнанні з папярэднімі тамамі, заняўся Чачот спробай характарыстыкі граматычнага складу беларускай мовы. Чачот называў беларускую мову крывіцкай мовай. Было гэта звязана з тым, што адзін з найбольшых плямён, з якіх злажылася беларуская нацыя, было племя Крывічоў. Чачот лічыў беларускую мову беднай. Бачыў у ёй аднак непрамінаючае багацце і хараство. Хацеў нават, каб некаторыя найпрыгажэйшыя беларускія словы ўвайшлі ў склад польскай мовы.

Характарызуючы паасобныя беларускія дыялекты, Чачот прыйшоў да вываду, што найбольш чыстым з'яўляецца дыялект паддзвінскі. Іншыя беларускія дыялекты лічыў Чачот больш занячышчанымі рускім, польскім і украінскім моўным уплывамі.

Новым у шостым томе было і тое, што Чачот бачыць тут патрэбу не толькі збору беларускага фальклору, але таксама шырокіх этнаграфічных даследаванняў, якія датычылі б беларускіх сялянскіх прыладаў, будаўніцтва, патраў, забаў і танцаў.

Галоўную пазіцыю ў VI томе займаюць тэксты песень беларускіх. Колькасць гэтых песень — значная. Шосты том налічвае іх сто. Першы раз у зборніку Чачота наступіла класіфікацыя гэтых песень. Аўтар выдзяляў асобныя групы песень: велікодныя, купальныя, калядныя, жніўныя, дзіцячыя, вясельныя. Па сутнасці, была гэта першая спроба навуковай класіфікацыі беларускай песні. Праўда, гледзячы з пазіцыі сённяшніх дасягненняў фалькларыстыкі, можна было б тое-сёе папраўляць у класіфікацыі, праведзенай Чачотам.

Аднак, займаючыся зборнікам «Piosenki wieśniacze», трэба заўсёды памятаць, што быў ён складзены больш як сто дваццаць гадоў таму назад. Тады не было яшчэ фалькларыстыкі, як навукі. Толькі энтузіясты-рамантыкі, кіруючыся эмоцыяй і парывамі сэрца, звярталіся да фальклору, знаходзячы ў ім крыніцу натхнення для сваёй творчасці.

Зрэшты, класіфікацыя беларускіх тэкстаў мае другараднае значэнне. Маючы тэксты старых песень, сённяшні вучоны патрапіць іх падзяліць і скласіфікаваць згодна з вымаганнямі сённяшняй навукі. Найважнейшыя тэксты. А іх у Чачота многа. Не можа быць сумнення, што прадстаўляюць яны значную вартасць. У іх можам знайсці адбітак народнай душы, народных настрояў. Яны — доказ паэтычных здольнасцей нашага народа. У іх — элемент несмяротнасці нацыі.

Ва ўсіх тамах апублікаваў Чачот 120 беларускіх песень. Адносіцца гэта аднак толькі да песень на беларускай мове. У суме, уключна з перакладзенымі песнямі, апублікаваў іх Чачот больш чым пяцьсот.

Здаючы сабе справу з таго, што не ўсе апублікаваныя тэксты заставаліся ў поўнай згодзе з беларускімі арыгіналамі, Чачот пісаў, што не можа браць на сябе адказнасці за ўсіх людзей, якія памагалі яму збіраць беларускія песні. Пры тым аднак адзначаў, што ўсе гэтыя асобы ведалі беларускую мову, і таму памылкі павінны належаць да рэдкасці.

Апрача тэкстаў песень, змясціў Чачот у VI томе 150 прыказак і прымавак. Гэтыя прыказкі і прымаўкі запамятаў Чачот з свайго дзяцінства або сабраў

СЁННЯ ЛЮДЗІ НАЙБОЛЬШ ГАВОРАЦЬ...

# ПРА ЖЫЛЛЁВАЕ БУДАЎНІЦТВА

Праўда, таварыш старшыня? — звяртаюся да мэра Гайнаўкі, Кастуся Ляшчынскага.

— Вядома ж, што праўда! — сцвярджае ён. — Інакш і быць не можа. То ж партыя ўсур'ёз узялася за гэтую справу, пленум ЦК склікалі! Вось слухаў я ўчора выступленне таварыша Эдварда Герка на V пленуме і лягчэй неяк рабілася на сэрцы, бо нам, кіраўнікам гарадской адміністрацыі, найбольш вядома, як надзвычайна важным у нашых гарадах з'яўляецца гэты складаны камплект спраў, які мы называем «жыллёвай праблемай». Гэтая праблема найбольш нам здароўя з'ела.

Рабочая Гайнаўка сядзела ў зямлянках і ў «бедахатах» з дошак і апілкаў. Апошняя сям'я пакінула зямлянку бадай ў пяцідзесятых гадах. Першыя мураваныя жыллёвыя будынкі паявіліся ў 1953 годзе.

**Цяпер у высокім мураваным будаўніцтве жыллёвая плошча складае звыш 330 тысяч квадратных метраў. Амаль паўтары тысячы кватэр падключаны да гарадской вадзяной сеткі, 1087 сем'яў карыстаецца каналізацыяй.**

Таварыш Герэк гаварыў, што за кароткі час прыдзецца нам пабудаваць яшчэ адну новую Польшчу. Калі б гэты вобраз перанесці на нашы гайнаўскія ўмовы, дык мы пасля вайны ўжо перавыканалі падобнае заданне — пабудавалі амаль дзве новыя Гайнаўкі!

— Рысуеце нам тут, таварыш старшыня, такі ідэальны малюнак, што чытачы гатовы падумаць: вось у Гайнаўцы ды рай! Там жыць, не гараваць...

— А я ў рай не веру, сябра рэдактар! I ў Гайнаўцы яго таксама не знайшоў. Вось нашы гараджане, перш за ўсё рабочыя, хочуць будаваць сабе асабнякі — уласныя домікі для сваіх сем'яў. Сярод гайнаўскага рабочага класа ўжо такая традыцыя, што кожная сям'я хацела б жыць у доміку з агародчыкам. На працягу мінулай пяцігодкі паявілася пры нашых вуліцах 168 прыватных будынкаў, а 250 заявак ужо паступіла да нас ад кандыдатаў на такое будаўніцтва. Банк усім ім гарантуе доўгатэрміновыя пазыкі. Толькі мы не можам адвесці для іх дзялянак пад такую пабудову. I не думайце, што мы гэтага не хочам зрабіць — проста не ведаем, дзе, у якім раёне гарадской тэрыторыі змясціць гэтае адно- і двухпавярховае індывідуальнае будаўніцтва. У 1964 годзе Прэзідыум ВРН зацвердзіў быў урбаністычны план разбудовы горада Гайнаўка. Жыццё ўнесла аднак у яго свае папраўкі. Дык тры гады таму назад звярнуліся мы ў Ваяводскую ўрбаністычную майстэрню, каб тамашнія знатакі справы навялі абноўку гэтага ўрбаністычнага плана. Думалі, што справяцца яны з гэтым хутка, а тут ужо чакаем тры гады і без ніякага выніку. А без гэтага плана мы, як без рук і ног. Амаль нічога не можам вырашыць, што кранае далёкую будучыню.

I дзе ж тут рай?

А калі яшчэ прыпомніш сабе, што нават на спулдзельчую кватэру прыходзіцца чакаць у нас ад пяці да сямі год, што адначасова гайнаўская жыллёвая спулдзельня не выкарыстала ў мінулым годзе аж 13 мільёнаў злотых, бо Бельска-падляшскае будаўлянае прадпрыемства не змагло «перарабіць» іх на кватэры, што ахвотных у нас на кватэры звыш 700, а мы толькі палавіне з іх зможам задаволіць гэтыя пажаданні — калі пра ўсё гэтае падумаеш, дык і сон адыдзе.

I таму з вялікай палёгкай вітаю гэты новы клімат, які партыя стварае цяпер для жыллёвага будаўніцтва. Ён нам шмат дапаможа і вызваліць людскую ініцыятыву. Такая палітыка карысна ўсебакова.

*Гутарку занатаваў:*
*В. Рудчык*

Пачатак на стар. 1

## Паўлы, Рыбалы і Міхалова

Але... заціха гавораць паўлаўцы. I перапынкі паміж карцінамі нервуюць людзей. Іх абавязкова трэба запоўніць наратарам, які перад занавесам расказаў бы гісторыю Райска. Прадумаць таксама трэба, ці сцэна варажбы бабкі Харытоніхі Васю ўдачная? Вельмі яна спрошчана, а бабка Харытоніха ж у кніжцы — душа багатая і партызанскі сувязны.

Як бачыце, зноў многа ўваг і падказаў. Гэта і зразумела. Там, дзе добра, родзіцца многа ўваг, бо хочацца, каб было яшчэ лепш.

*Вера Леўчук*
*Фота Цаф — П. Савіцкі*

## ці ведаеце, што...

...у 1970 годзе пабудавана на беластоцкіх вёсках больш 2 тысяч дамоў, а ў мінулым годзе — 1930. Найбольш дамоў пабудавана ў 1971 годзе ў Беластоцкім павеце — 233. Ваду з кранаў у хаце мае зараз 1200 сялян.

...у гадах 1966—1970 у Беластоцкім ваяводстве пабудаваны 1222 кватэры для настаўнікаў. Найбольш кватэр пабудавана ў Беластоцкім, Бельскім і Гайнаўскім паветах. У Беластоцкім павеце пабудавана ў 1966—1970 гадах 190 кватэр для настаўнікаў, а ў 1971 годзе — 76.



ад шляхты з Гродзеншчыны. Узборы і публікацыі прыказак і прымавак быў Чачот, несумненна, наватарам. Да такой галіны фальклору, як прыказкі і прымаўкі, тагачасныя фальклярысты адносіліся досыць абыякава. Займаліся найбольш песнямі. На прыказкі пачалі звяртаць большую ўвагу ў другой палове XIX ст. Чачот сваім паэтычным чуццём усведамляў вялікае значэнне прыказкі як філасофскай скарочанай формулы.

Апошняй навізной шостага тома зборніка «Piosenki wieśniacze» быў слоўнік. У гэтым скромным слоўнічку змясціў Чачот каля двухсот беларускіх слоў, пачэрпнутых з гутаркі беларускіх сялян. Апошні том зборніка «Piosenki wieśniacze» прысвяціў Чачот памяці «...spoczywającego Stanisława Staszica», якога называў вызваліцелем чатырох тысяч украінскіх сялян.

З усяго сказанага відаць, што зборнік Чачота «Piosenki wieśniacze» мае велізарнае гістарычнае, навуковае, фальклярыстычнае значэнне. Чачот любіў беларускі народ. Любоў гэтая не вынікала з тактыкі, з палітыкі ці літаратурнай моды на народнасць. Рамантызм толькі ўзмоцніў у душы Чачота тое, што ў ёй ніколі не гасла. Была гэта непрамінаючая сімпатыя да Беларусі.

## КАЛІ ЦВІТУЦЬ КАШТАНЫ...

...у выпускнікоў гарачая пара — матуральныя экзамены.

«Ніва» наведала беларускія ліцэі ў Бельску і Гайнаўцы 13 мая, у той дзень, калі матурысты пісалі экзаменацыйныя працы па беларускай мове. У абсалютнай цішы і працавітым настроі 120 дзяўчат і юнакоў (у Бельску — 70 асоб, у Гайнаўцы — 50 асоб) на працягу пяці гадзін павінны былі апрацаваць адну з дадзеных куратарыяй тэмаў:

«Паказ мужнасці і самаахвярнасці беларускага народа ў барацьбе супраць фашысцкіх захопнікаў у творчасці Я. Купалы і Я. Коласа».

«Вобраз жанчыны ў беларускай літаратуры дакастрычніцкай і савецкага перыяду».

«Браніслаў Тарашкевіч — выдатны прадстаўнік сваёй эпохі».

Не будзем таіць: тэмы не былі лёгкімі. Кожная з іх вымагала грунтоўных ведаў па гісторыі літаратуры і грамадскага жыцця ў Беларусі ў мінулым і ў нашыя дні. Для тых з матурыстаў, якія ў гэтым годзе збіраюцца паступаць на беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце, матуральныя іспыты па беларускай мове былі добрай спробай іх сіл і ведаў перад уступным экзаменам ва ўніверсітэт.

У гэтым годзе большасць выпускнікоў ліцэяў у Бельску, Гайнаўцы і Міхалове ўжо па склаўшайся гадамі традыцыі кіруецца ў Вышэйшую інжынерскую школу і Вышэйшую настаўніцкую школу ў Беластоку, у Беластоцкую медыцынскую акадэмію, вышэйшыя школы Варшавы, Любліна, Ольштына, Гданьска і іншыя акадэмічныя цэнтры нашай краіны.

Узровень навучання ў гэтых ліцэях высокі, выпускнікі іх атрымалі грунтоўную падрыхтоўку пад кіраўніцтвам вопытных педагогаў.

«Ніва» жадае ім традыцыйнага лоту шчасця ў здабыцці студэнцкай заліковай кніжкі.

*Мікалай Гайдук*
*Фота Я. Цялушэцкага*



*Экзамен па беларускай мове ў Бельску праходзіў у атмасферы сканцэнтравання і працавітасці. На здымку: мгр З. Красоўская — настаўніца беларускай мовы ў гэтым ліцэі — сярод выпускнікоў.*



*Крысціне Лушчынскай, адной з самых лепшых вучаніц ліцэя ў Бельску, выбраная тэма вельмі спадабалася.*



*Зоф'я Карнелюк, найлепшая вучаніца па матэматыцы ў Бельскім беларускім ліцэі, з матэматычнай скрупулёзнасцю пісала і працу па беларускай мове.*



*Думкі клаліся плаўна, і лёгка было іх перадаць на паперы, калі чатырохгадовы побыт у ліцэі ў Гайнаўцы быў стараннай і сістэматычнай вучобай.*



*Экзаменацыйная праца гатова... «Павінна быць добрай», — мяркуе Юрка Чурак, выпускнік беларускага ліцэя ў Гайнаўцы.*

НА ШЛЯХУ ГАЙДУКОЎШЧЫНА — РЫБАКІ

# ДЗЕНЬ СВЯТОЧНАЙ ПРАЦЫ

Сяло Рыбакі, што ляжыць на скраі Лядскай пушчы, гэта традыцыйнае месца адпачынку жыхароў Гайнаўкі. Даўно ўжо прыязджалі сюды з сем'ямі рабочыя гайнаўскіх прадпрыемстваў, каб адпачыць пры лоўлі рыбы ў Нарве, пакупацца ў яе чыстай вадзе, пазагараць на пяску, што ад леса цягнецца амаль да самых берагоў ракі.

Калісь людзі з Гайнаўкі даязджалі сюды пераважна лясной чыгункай, паколькі дарога была тут мала праезднай ды і ездзіць не было чым.

Зараз змянілася многа. Забаронена вазіць людзей лясной чыгункай, а, з другога боку, развілася матарызацыя. Але вядома, што матарызацыя патрабуе добрых дарог.

Ад шашы Гайнаўка—Нарва да Рыбакоў 5 кіламетраў. Да вёскі Гайдукоўшчына, якая ляжыць на шляху ў Рыбакі, была зроблена «жвіроўка», аднак далей дарога засталася дрэннай.

У часе перадз'ездаўскай дыскусіі людзі працы Гайнаўкі штораз складалі прапановы адносна арганізавання ў павеце цэнтра адпачынку і рэкрэацыі. Як мясцовасць указваліся іменна Рыбакі. Партыйныя і адміністрацыйныя ўлады павету вырашылі арганізаваць у Рыбаках павятовы цэнтр адпачынку. Працу пастанавілі распачаць ад пабудовы новай дарогі Гайдукоўшчына — Рыбакі. Павятовы камітэт Фронту адзінства народу заклікаў да масавага грамадскага чыну. Калектывы заводаў, прадпрыемстваў і ўстаноў падтрымалі заклік.

У нядзелю 14 мая г.г. працаваць на 2-кіламетровым адрэзку дарогі Гайдукоўшчына — Рыбакі сабралася каля 2,5 тысячы чалавек, а вартасць выкананых тады прац ацэньваецца на 350 тысяч злотых.



*Некаторыя прадпрыемствы на чын прыбылі з трактарамі.*

Рэпарцёр наведаў працуючых. Першае, што адразу кінулася ў вочы прыезжаму — гэта выдатная арганізацыя працы, пра якую задбаў аддзел мясцовых дарог у Гайнаўцы. Кожны калектыў меў дакладна вызначанае месца і адрэзак работы. Зразумела, не ўсе маглі з'явіцца на працу з розных прычын, выканаюць яны яе ў іншых днях. Але аб ахвярнасці ў працы сведчыць хай і тое, што ва ўспамянутую нядзелю выканана каля 80 працэнтаў прац.

І яшчэ адно. Арганізатары чыну падумалі не толькі пра месцы працы, прылады і інструктаж, але таксама і пра спажывецкія кіёскі, аранжаду і піва. Пасля заканчэння працы пасобныя калектывы арганізавалі танцы.

Заканчэнне пабудовы дарогі прадбачваецца ў бягучым годзе, а ў наступным годзе будзе палажаны асфальт. Зараз апрацоўваецца дакументацыя будовы гастранамічнай часткі цэнтра адпачынку, электрыфікацыі і пляжа.

Нельга не адзначыць і таго факту, што ў нядзельным чыне Гайнаўшчыны ўдзельнічалі і працавалі гаспадары павету: Л. Бартосяк — I сакратар ПК ПАРП, М. Самоцік — старшыня прэзідыума ПРН, У. Антосюк — старшыня ПК ФАН і іншыя.

Адным словам, Гайнаўшчына вярнулася да традыцый масавых грамадскіх чынаў, такіх, як у мінулым будова дарог Гайнаўка — Кляшчэлі і Гайнаўка — Нарва. Добрая гэта традыцыя, а агульная вартасць дарожных чынаў у Гайнаўскім павеце раўняецца амаль 100 мільёнам злотых.

*Тэкст і фота*
*А. Карпюк*


*Кавалак зробленай работы.*


*У часе перапынку можна было халадзіцца марожаным.*

КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

ЯК ПРАДУКУЮЦЦА СЫРЫ

Сыраварства абапіраецца на пэўных якасцях малака. Як вядома, малако пад уплывам некаторых фактараў можа ссядацца. Пры прадукцыі тварожных сыроў гэткім фактарам з'яўляецца малочная кіслата, якая ўзнікае ў выніку развіцця малочных бактэрый; пры прадукцыі сыроў так званых падпушчкавых — падпушчка, якую дабываюць з жалудкаў цялят у перыяд іх кармлення выключна малаком. Падобныя да падпушчкі якасці маюць таксама сокі некаторых раслін. У старажытныя часы менавіта сок з фігаў выкарыстоўваўся пры прадукцыі сыроў.

Падпушчка выклікае ссяданне малака на працягу 30—40 мінут, а пад уплывам бактэрый малочнай кіслаты гэты працэс працягваецца ад некалькіх да дваццаці гадзін.

Сыры дзеляцца на падпушчкавыя, тварожныя і плаўленыя.

Даспяваючыя падпушчкавыя сыры з'яўляюцца прадуктам, які ўзнікае ў выніку цяжкіх і доўгіх аперацый, вымагаючых вялікіх ведаў і вопыту сыравара. Працэс іх прадукцыі ахоплівае некалькі этапаў: падрыхтоўка малака, запраўленне падпушчкай, далейшая апрацоўка малака, фарміраванне сыроў, іх прасаванне, саленне, догляд у часе іх даспявання і апошняя апрацоўка сыроў перад паступленнем іх у продаж. Найбольш важным і найдаўжэйшым этапам у прадукцыі гэтых сыроў з'яўляецца іх даспяванне. Яно працягваецца ў залежнасці ад гатунку сыра ад паўтара да шасці і больш месяцаў. Даспяванне вымагае спецыяльных умоў, каб у сырах наступілі змены, спрыяючыя атрыманню тыповага смаку, запаху і выгляду.

Сыр трапістаў даспявае 1—2 месяцы, тыльзіцкі — 2—4 месяцы, эдамскі і чэдар — 4—6 месяцаў, эментальскі — 6—8 месяцаў. Сярэдняя тэмпература ў даспяванні 10—15°С, але сыр рокфор патрабуе, напрыклад, тэмпературы 5—7°С.

Працэс прадукцыі тварожных сыроў працягваецца намнога карацей і менш складаны. Тварожныя сыры менш трывалыя (да 48 гадзін). Да іх дадаюць розныя прыправы, як соль, кмен, цукар, ванілія, какао, нават часнок. Дзякуючы гэтаму атрымліваецца розны смак тварожных сыроў.

Плаўленыя сыры выпрадукавала ўпершыню ў 1911 годзе адна швейцарская фірма. Гэтыя сыры атрымліваюцца з падпушчкавых сыроў, якія мелюць, а пасля плавяць. Неабходна пры гэтым дадаваць спецыяльныя, так званыя плаўнікі. Для плаўлення прызначаюцца сыры, якія маюць нейкія дэфекты, альбо несаспелыя. Плаўленыя сыры вельмі трывалыя. Пераходуваюць іх у памяшканні з тэмпературай 0—10°С і вільготнасцю 75—80 працэнтаў. У гэткіх умовах яны захоўваюць усе свае якасці на працягу 20—30 дзён.

*Гаспадыня*




ВЫЗВАЛЕННЕ ВАРШАВЫ

15 студзеня нас застала ў Явожы. Мясцовыя гуралі сустрэлі атрад як старых добрых знаёмых. К вечару падмарозіла. Я выйшаў у двор. З усходу глуха дакатваўся гул артылерыйскага бою. І не заўважыў, як побач вырас Яўсей Блізнякоў.

— Таварыш капітан, таварыш капітан! Вольга кліча. Гаворыць: важнае паведамленне.

Я — у хату. Вольга свеціцца радасцю: весткі добрыя. Працягнула навушнікі. Я адразу пазнаў чаканны, трыумфуючы голас Левітана. Вызвалена Варшава.

Навушнікі напоўніліся грукатаннем, святочнымі залпамі. Масква салютавала Варшаве, салдатам-вызваліцелям. У той жа вечар Вользе ўдалося злавіць Кіеў.

Зварот Савета Народных Камісараў Украіны да Прэзідэнта Краёвай нацыянальнай рады Баляслава Берута мне здаўся настолькі важным для прапагандысцкай работы, для нашых далейшых кантактаў з мясцовым насельніцтвам, што я запісаў яго ў свой блакнот.

Я загадаў сабраць усю групу для палітгутаркі. Коратка перадаў паведамленне Саўінфармбюро, павіншаваў разведчыкаў з вызваленнем Варшавы. Затым зачытаў толькі што запісанае паведамленне Савета Народных Камісараў Украіны.

На світанні мы пакінулі Явожэ.


*Аляксей Шапавалаў — Граза.*

АПОШНІЯ ДНІ

Дзівосны лёс чалавека на вайне. Так і згубіліся сляды Молніі. Усе нашы роспыты ні да чаго не прывялі. Магчыма (відаць, Граза памыліўся), што Молнія, як і Курт Пекель, забіты сляпой куляй. Дарэчы, з ім маглі расправіцца мясцовыя партызаны, якія не падазравалі аб яго сувязі з намі.

А Праўдзівы? Жонку сваю ён не застаў. У Кшэшовіцэ Отмана затрымалі контрразведчыкі Беларускага фронту. Паказанні мацёрага абвераўца прагучалі настолькі фантастычна, што ў іх у франтавой спецслужбе ніхто не паверыў. Отмана адправілі ў лагер для ваеннапалонных. А між тым, яго расшуквалі. І не толькі мы.

У Беларусі падраздзяленне Отмана прымала ўдзел у карных аперацыях супраць нашых партызан. Яго судзілі ў Мінску як ваеннага злачынца, прыгаварылі да працяглага тэрміну зняволення.

Праз некалькі гадоў, калі знайшлі сляды Отмана, я пацвердзіў паказанні Праўдзівага, яго актыўнае супрацоўніцтва з групай «Голас». Савецкі ўрад, дэталёва ўсё ўважыўшы, палічыў магчымым датэрмінова вызваліць Отмана са зняволення.

Граза сустрэўся з савецкімі войскамі ў раёне Сапкі. Яго даставілі ў армейскае аддзяленне разведкі. Абмяняліся паролямі: Голас накіроўвае мяне да Паўлава, Паўлаў прымае. Пад вечар 19 студзеня Аляксей Шапавалаў ужо быў у разведаддзеле штаба фронту.

Распачаў выконваць свае абавязкі сакратар Кракаўскага гарадскога камітэта партыі Юзэф Зайонц. Неяк на трэці дзень вызвалення ў дзвярах яго кабінета раптоўна вырасла знаёмая фігура ў новенькім шынялі і лейтэнанцкіх пагонах. Усмешка да вушэй.

— Аляксей!

— Міхал!

Глядзелі адзін на аднаго, як людзі, якія скінулі з сябе вялізны цяжар.

А ў гэты час наша група, змяшаўшыся з адступаючымі часцямі вермахта, усё яшчэ ішла на Захад, працягваючы выконваць сваю задачу.

ВЫРАТАВАНЫ ГОРАД

Як удалося прадухіліць злачынную задуму гітлераўцаў: узарваць Кракаў, які ўжо заняты савецкімі часцямі?


*Юзэф Зайонц — Міхал.*

# ТРЫБУНА чытачоў

## УЗОРНЫ МЕЛЬНІК

У Мізарэчах, Сакольскага павету ёсць вадзяны млын. Многа там мянялася кіраўнікоў, і млын быў усё на стратах. Пакуль некалькі гадоў таму назад не пачаў кіраваць млынам Казімір Шухніцкі. Яго дбайная і сумленная праца дае вынікі: млын стаў прыносіць вялікія даходы. Людзі прывозяць сюды малоць муку з далёкіх вёсак. Але добры кіраўнік млына ў ліпені адыходзіць на заслужаную пенсію, і трэба пастарацца, каб млын зноў не апынуўся ў цяжкім становішчы. (А.С.)




### ДА МАЁЙ РАДЗІМЫ

Я ведаю, ты многа перацярпела
і паражыла,
Я гэтага не забуду, краю мой,
Краю працы і сіняга васілька,
Астанешся такім ты ў памяці маёй.

Як толькі зацвітуць сады,
То ўжо чуваць пчаліны зык.
Мы ведаем, што прайшлі зімовыя
часы,
Калі ў небе пачуецца жураўліны
крык.

А на полі ўзыходзіць ужо збожжа,
Каб летам зашумець золатам.
А калі зацвітуць і зазеляняюць лугі
прыгожа,
Там і жабы гавораць сваім рэхатам.

Бачу цябе ў красе тваёй цэлай,
Мая родная зямля.
Цябе акружае наўкола
Дружная працавітая сям'я.

*Анатоль Верамеюк,*
*Вучань 8 класа ў Аўгустове*

### РОДНАЕ ПАДЛЯШША

Там, дзе чую спеў зялёных лесаў,
Там, дзе птушкі весела пяюць,
Бачу сцежкі роднага Падляшша,
Там мой родны, беларускі кут.

Там, ў дрымучым лесе стаіць хатка,
Там жыве наш брат, наш беларус.
Ён старонку любіць сваю надта
І яму найлепей дык вось тут.

Там штодзённа ў школу бягуць дзеці,
Там і рэчка родная плыве,
Сонца па-над лугам ясна свеціць,
І Падляшша кветкамі цвіце.

Дзень ўстае там ясна і вясёла,
Весяліцца беларускі кут.
Мы жывем ў сваім Падляшшы
І беларусамі нас завуць.

*Зіна Якімчук,*
*Бельскі беларускі ліцэй*

### Як быў выратаваны горад?

Магчыма, мы таго-сяго і расчаруем, але тут ужо нічога не зробіш: чаго не было, таго не было. Ніхто з групы «Голас» не ўзрываў сваімі рукамі смяротны кабель. Ніхто не загінуў. Больш таго, наша група — усе, за выключэннем Гразы, у дзень вызвалення Кракава знаходзіліся далёка ад горада, ідучы па загаду камандавання далей, на Захад.

Сто пяцьдзесят шэсць дзён дзейнічала наша група ў варожым тыле. Мы перадалі за гэты час больш чым сто пяцьдзесят радыёграм. І па сутнасці кожны радок у іх, хоць мы не заўсёды ўяўлялі гэта, так ці інакш служыў адной і той жа мэце — вызваленню і выратаванню горада. Нашы сапёры, выкарыстаўшы даныя разведвальных груп і польскіх сяброў, ужо ў першыя гадзіны вызвалення Кракава размініравалі Вавель, Сукеніцы, універсітэт. Гітлераўцы заклалі міны пад усімі асноўнымі збудаваннямі, пад многімі архітэктурнымі помнікамі. Але ўзарваць іх ужо не змаглі.

Былі абясшкоджаны і міны замаруджанага дзеяння, якія самі ўзрываюцца. Сапёры — і армейскія, і франтавыя — у першыя суткі працавалі нястомна, не ведаючы ні сну, ні адпачынку.

Вялікі іх подзвіг. Галоўнае, рашаючае слова ў выратаванні старажытнай польскай сталіцы сказаў наш Салдат, Савецкая Армія.

*(Працяг будзе)*

## ЭХ, ДАРОГІ...

Нядаўна жыхары Руткі Гайнаўскага павету грамадскім чынам навазілі пяску на дарогу, што ідзе ў Тапаркі (метраў 100—150, каля самай вёскі). Але, калі тут не зажвіраваць, дык адзін пясок нічога не дасць: было балота і будзе. А навазіць жвіру пакуль тут ніхто не думае: спадзяюцца на грамадскую раду. А гэта дарога патрэбна толькі адным руднікам. Дык чаму яны не могуць яе закончыць? Хоць каля самай вёскі!

*П. Дубовіч*

## ВЫСТАЎКА Ў МАХНАТЫМ

У мясцовым клубе 13 мая была адкрыта выстаўка пад лозунгам «Навіны ў кожным доме». Тут можна было ўбачыць розныя цікавыя рэчы, неабходныя ў кожнай гаспадарцы: пральныя машыны, халадзільнік, пыласосы, сушылкі, кафейныя млынкі і інш. І не толькі ўбачыць — можна было іх таксама і набыць за грошы, або на раты. Выстаўка была вельмі цікавая і карысная для сялян. Арганізаваў яе ГС у Гайнаўцы.

*Алеся*

## ГУРТОК ЛЗС У РЫГОРАЎЦАХ

У Рыгораўцах ёсць гурток ЛЗС. Мае ён сваю спартыўную пляцоўку. Калі пагода, у кожную нядзелю і свята моладзь гуляе ў валейбол. Гэты від спорту цікавіць перш за ўсё хлопцаў. У вясковых гуртках ЛЗС вельмі мала дзяўчат. Ці таму, што не хапае добрых інструктараў, якія змаглі б зацікавіць дзяўчат спортам? Вось, напрыклад, Валя Крот з Рыгораўцаў хоча ўдзельнічаць у спаборніцтвах па бегу (калісьці ў школе ў яе былі надрэнныя вынікі), але тут ніхто дзяўчатам нічога не прапануе. Варта, хлопцы, запрасіць дзяўчат у свой гурток. Спорт — найлепшы спосаб супраць нуды.

*Наглядальнік*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Пазайздросцілі чытачы «Нівы» поспеху «Зорчынай» рубрыкі «Пазнаёмімся» і прапануюць адкрыць такую ў «Ніве». Прапанова нам падабаецца. Сапраўды, чаму могуць знаёміцца толькі чытачы «Зоркі»? Дык даем магчымасць і чытачам «Нівы»: знаёмцеся, дасылайце свае адрасы, фота і пішыце аб сваіх зацікаўленнях, ніколі няма лішніх сяброў (вучні падставовых школ, вядома, надалей павінны знаёміцца праз «Зорку»).

А вось першы адрас:
Halina Czerniawska, uczennica kl. I „a" LO Michałowo, ul. Białostocka 46, pow. Białystok.
Любіць дыскутаваць.




*Дарагое Сэрцайка!*

Пішуць усе да цябе, шукаючы парады. Пастанавіла і я напісаць. Хоць пішу не ў справе кахання, але думаю, што і на маё пытанне атрымаю адказ. Хачу я запытаць цябе, ці прымаюць дзяўчат у ОРМО. Калі так, хацела б ведаць, куды звярнуцца ў гэтай справе. Закончыла я толькі пачатковую школу. Вучылася выдатна. Цяпер я сяджу дома, нідзе не вучуся, бо матэрыяльныя ўмовы маёй сям'і даволі цяжкія. Зрэшты, ад заканчэння пачатковай школы мінула ўжо 10 год. Вельмі хацела б належыць да ОРМО.

Чакаю адказу і дзякую за параду.

*Сталая чытачка «Нівы»*
*з Гайнаўскага павету.*

Праца ў ОРМО цяжкая, ды гэта праца грамадская, г. зн. не платная. У ОРМО прымаюць і мужчын і жанчын, якім споўнілася 18 год.

Паколькі табе ўжо споўнілася 18 год, раю табе звярнуцца ў гэтай справе ў найбліжэйшы пастарунак МО або ў павятовую камэнду МО ў Гайнаўцы. А мо ў тваёй вёсцы існуе гурток ОРМО? Тады на месцы атрымаеш адказ.

Жадаем усяго найлепшага
*Сэрцайка*

## «МЯДЗВЕДЗЬ»

Ва ўрочышчы «Мядзведзь» каля Дубіч Царкоўных сяляне карчуюць заdespite зарaслі і мяркуюць потым засеяць гэту зямлю (каля 25 гектараў) дабраякаснай травой. У сялян у гэтай справе ёсць ужо добрая практыка: год таму назад яны выкарчоўвалі ўрочышча «Жалубок». Сёння тут расце густая трава.

*М. Панфілюк*

## Кансультацыя ЮРЫСТА

*Пытанне:* Мая суседка аддала зямлю дзяржаве за пенсію. Аднак ніхто гэтай зямлёй не цікавіўся, і яна ляжала некалькі год адлогам. У 1971 годзе я заараў яе і пасеяў збожжа. Аднак пасля зборкі ўраджаю прэзідыум грамадскай рады зямлю ад мяне забраў і аддаў іншаму гаспадару. Я даўдаў зямлю да парадку, а хтосьці іншы прыйшоў на гатовае. Ці прыслугоўвае мне права да гэтай зямлі?

*Адказ:* Калі суседка аддала зямлю дзяржаве, то ўласнікам зямлі з'яўляецца дзяржава і толькі яна можа распарадзіцца зямлёй пры дапамозе сваіх органаў. Таму прэзідыум мог распарадзіцца зямлёй і аддаць яе іншаму ў арэнду, або прадаць яе. Вы зааралі зямлю без згоды ўласніка, і ніякіх правоў на яе не маглі набыць. Гэткіх правоў не дае таксама закон з 26 кастрычніка 1971 года. На аснове гэтага закона нельга атрымаць права ўласнасці на дзяржаўную зямлю, калі б нават хтосьці апрацоўваў яе звыш пяці год.

Зразумела, вы можаце старацца, каб зямлю прыдзялілі ў карыстанне вам і адклікацца ад пастановы грамадскай да павятовай рады нарадовай, якая вырашыць справу.

## БЕЛАРУСКАЯ ВЕЧАРЫНКА



*Галіна Лобач (Даміцэля) і Павел Гутнік (Трахім) у пастаноўцы «Прымакі» Янкі Купалы.*

У нашым ліцэі адбылася беларуская вечарынка. Прысвечана была яна Янку Купалу. На вечарынцы сабралася многа моладзі. Аб жыццёвым і творчым шляху Янкі Купалы расказала вучаніца I класа «б» Ірэна Кузьма. Пасля была паказана п'еса Янкі Купалы «Прымакі». У пастаноўцы прымалі ўдзел Ірэна Полех (Кацярына), Юзэф Пашкевіч (Максім), Павел Гутнік (Трахім), Наташа Савіцкая (Паланея), Галіна Лобач (Даміцэля), Мікалай Кананьчук (Мацейка), Станіслаў Палоцкі (Соцкі), Яўгень Бойчук (ураднік). П'есу гэту падрыхтаваў драмгурток, які дзейнічае пры доме культуры ў Міхалове. Удзел у гэтай п'есе прымалі таксама вучні II«б» класа, якія з'яўляюцца таленавітымі акцёрамі. Вечарынка ў нашым ліцэі была вельмі цікавая. Але найбольш напрацавалася пры гэтым настаўніца Анна Купрыяновіч.

*Павел Гутнік,*
*Міхалоўскі агульнаадукацыйны ліцэй*




*Міша Канажэўскі, Вярсток Гайнаўскага павету.* Сардэчна дзякуем за ліст. Пахваляем тваё і твайго сябра рашэнне пасля заканчэння пачатковай школы паступіць у Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Закончыўшы гэты ліцэй, калі вы будзеце ў ім вучыцца сістэматычна і старанна, зможаце паступіць у любую з вышэйшых школ нашай краіны і здабыць любімую прафесію. З атэстатам сталасці гэтага ліцэя можна таксама прабаваць паступіць на аддзяленне чыгуначнага транспарту Варшаўскай політэхнікі. Цяпер жа раім табе і твайму таварышу прыкласці ўсе намаганні, каб з выдатнымі вынікамі закончыць пачатковую школу.

**Ці Вы ўжо выпісалі „Ніву"?**

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Okruchy życia" (franc.), 6—7. „Polowanie na mężczyznę" (franc), 8—9. „I znów skaczę przez kałużę" (czeski), 10—11.

**Нараўка**

„Tropiciel śladów" (rumuński), „Szepczące ściany" (franc.), 7—11.

**Нарва**

„Ambasadorowie nie mordują" (NRD), „Przygody Krosza" (radz.), 7—11.

**Чыжы**

„Romantyczni" (polski), „Po latach" (radz.), 7—11.

**Дубічы Царкоўныя**

„Cyrk bez granic" (rumuński), „Własne zdanie" (bułg.), 7—11.

**Арэшкава**

„Cudowna lampa Aladyna" (franc.), „Gott mit uns" (jugosł.), 10—11.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Hajducy kapitana Angela" (rumuński), „Milion za Laurę" (polski), 7—11.

**Райск**

„Zdarzenie" (jugosł.), „Pippi" (szwedzki), 7—11.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**

„Tropiciel śladów" (rumuński), „Spóźnieni przechodnie" (polski), 7—11.

**Янаў**

„Przygody misia Yogi" (USA), 7—11.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Jezioro Starej sowy" (NRD), 6—7. „Kto śpiewa nie grzeszy" (jugosł.), 8—9. „Przystań" (polski), 10—11.

**Мельнік**

„Szósty lipca" (radz.), 6—7. „Tylko umarły odpowie" (polski), 8—9. „Topkapi" (USA), 10—11.

**Мілейчыцы**

„Mezalians" (węgierski), 6—7. „Zbrodnia i kara" (radz.), 8—9. „Molo" (polski), 10—11.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Narkotyk" (franc.), „Kalejdoskop" (ang.), 7—11.

**Новы Двор**

„Tylko jeden telefon" (ang.), „Wołga-Wołga" (radz.), 7—11.

**Ніва**

**Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.**

BZGraf. Nakład 6.885 T-3

ПЕСНЯ ВЯСЁЛАГА БУРАЦІНА

## КУПІЦЕ ДЗІЦЯЦІ ЦАЦКУ

Многа на свеце ёсць добрых людзей,
Ды самыя лепшыя — тыя,
Што цацкі ўмеюць рабіць для дзяцей:
Іх сэрцы — наскрозь залатыя.

Той, для каго я быў сэнсам жыцця
(А быў мнагадзетны ён бацька!),
Казаў, што без цацкі дзіця — не дзіця,
Дзіцяці патрэбна цацка.

Дзядзечкі — таты, прашу я вас:
Каб ганьбы не мець знянацку —
Вы хоць аднойчы ў жыцці, хоць раз
Купіце дзіцяці цацку!..

Камечыць траячку ў руках чалавек:
Куды з ёй пайсці — невядома:
Ці заглянуць у «Дзіцячы свет»,
Ці ў штучны аддзел гастранома?

Ах, хай даруе малая дачка —
Сяк-так апраўдаюся хітра.
Чымся за ляльку аддаць траяка —
Лепш наскрабу на паўлітра!

Дзядзечкі — таты, прашу я вас:
Каб ганьбы не мець знянацку —
Вы хоць аднойчы ў жыцці, хоць раз
Купіце дзіцяці цацку!..

Цацка, паверце, сур'ёзная рэч.
Цацкі — не глупства, не дробязь.
Ад першых з малым чалавечкам
сустрэч
Уплыў на душу яны робяць.

Толькі не блытайце цацку з душой!
Цацкаць душу — небяспечна.
Сцацкаеш цацку — заменіш другой,
А сцацкаў душу — то навечна!

Дзядзечкі — таты, прашу я вас:
Каб ганьбы не мець знянацку —
Вы хоць аднойчы ў жыцці, хоць раз
Купіце дзіцяці цацку!..

*Песню Бураціна падслухаў*
*Ніл Гілевіч*



— *Ці застаў я Люсю? Скажыце ёй, што прышоў нарачоны...*

# НІЎКА



— *У цябе вельмі старамодныя погляды.*
— *Нічога дзіўнага, мяне бабуля выхоўвае.*

### Галаваломка

З дзесяці запалак складзіце фігуру, падобную на павука. Пераложыце тры запалкі так, каб павук «рушыў» у адваротным напрамку.




*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: 20 квадратаў.*

### ТАЛЕНТ

— Ну, як ваша дачка іграе на піяніна?
— Цудоўна! Яна дасягнула краёвых поспехаў. З-за яе ўжо двое суседзяў выехалі ў іншы горад.

### ТУ-ТУ

Чатырохгадовы Алесь гуляе з бабуляй каля хаты. Бабуля і кажа:
— Алесь, глядзі вось «ту-ту» паехала...
— Гэта не «ту-ту», а «Фіят —125 П», — адказаў Алесь.

### ЦІХА!

Маці з бацькам за сталом гавораць аб тым, што каноплі трэба сеяць раніцай або вечарам, каб куры не склявалі семя. Маленькі Віця крычыць бацькам:
— Эй, не гаварыце так голасна, певень за дзвярыма слухае!

### ПЯТРУК

— А ну, адкажы, Пятрук, як будзе множны лік ад слова «кветка».
— Букет, — адказвае хлопчык.

— *Іваноўскі, не разумею, аб чым ты думаў, калі рашаў прыклады па арыфметыцы?*

### ДЗЕД І ЎНУК

— Дзядуля, а вы калісьці былі маленькім? — пытае ўнук.
— Быў, унучак, быў.
— Вось вы былі, напэўна, смешнымі са сваёй барадкай і лысінай...

### УСЁ ЯСНА

Жонка выправіла мужа з хлопчыкам пагуляць на вуліцу, каб яны не перашкаджалі ёй прыбіраць у хаце. Калі праз дзве гадзіны яны вярнуліся, спытала сына:
— Ну, дзе вы былі?
— У кафэ, — адказаў хлопчык.
— Што вы там рабілі?
— Пілі ліманад.
— І тата таксама піў ліманад? — перапытала жонка.
— Ага. Тата ўзяў мне шклянку ліманаду і сабе палову шклянкі ліманаду.
— А потым?
— Тата выпіў свой ліманад і запіў маім ліманадам.
Бацька сярдзіта зірнуў на сына.
— Што, не праўда? — збянтэжыўся хлопчык.
— Праўда, сынку, — усміхнулася жонка. — Тата вельмі любіць ліманад, — і павяла мужа ў другі пакой.

*Лявон Кудла*

### МАМА ПЛАЧА

— Эх, тату, тату, сядзіш сабе, газеткі пачытваеш, а таго не ведаеш, што на кухні мама плача.
— Чаго ж яна расплакалася?
— У яе непрыемнасць.
— Якая?
— Ды пякла коржыкі, а выйшлі сухарыкі.
— Згарэлі?
— Не згарэлі, а пачарнелі і ссухарыліся.
— То яшчэ не бяда.
— Эгэ! Гэта для цябе не бяда. А мама кажа, што калі суседка Тамара даведаецца, дык да вечара ўвесь горад будзе ведаць.

### ЗДАГАДАЎСЯ

Маці заклапочана пытае:
— А ці наловіць наш татка сёння рыбы?
— Прынясе! — упэўнена гаворыць сын.
— Адкуль ты ведаеш?
— А ён у куфэрку грошы браў.



— *Мамачка, я зварыў табе юшку.*

### ПАРАДАВАЎ

Малы Пеця прыбег у хату і гаворыць маці:
— Мама, а сёння табе парсючка не трэба карміць.
— А чаму не трэба?
— Я зрабіў дзірачку ў плоце і пусціў яго ў гарод, няхай папасецца.

### У ШКОЛЕ

Настаўнік даў тэму для сачынення: «Напішыце апавяданне, выкарыстоўваючы назвы ўсіх дзён тыдня».
Вучань напісаў:
«У нядзелю тата пайшоў на паляванне. Ён прынёс такога велізарнага зайца, што мы яго елі ў панядзелак, аўторак, сераду, чацвер, пятніцу і яшчэ засталося на суботу».



— *Зноў касмічны карабель будаваў?*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ніны Харытанюк з Бельска і яе сяброўкі Галіны змяшчаем песню*

## БЕЛАРУСКІ ВАЛЬС

*Словы і музыка:*
*А. Шыдлоўскага*
*Апрацоўка К. Паплаўскага*

Колькі ў небе зор,
цяжка палічыць,
Толькі з іх адна
найярчэй гарыць.
Гэта ты мая, зорка ясная,
Ты любоў мая непагасная.
У працы і ў жыцці
добра нам з табой
Марыць і любіць
з песняй маладой.
Дзе так добра жыць,
дзе такі прастор,
Шчасця больш у нас,
як на небе зор.
Край шырокі наш,
мірны, дарагі,
І бягуць у даль
светлыя шляхі.
Мне з табой па іх
хочацца ісці
І дзяліць усё
разам у жыцці.
Колькі ў небе зор,
цяжка палічыць,
Толькі з іх адна
найярчэй гарыць.
Гэта ты мая, зорка ясная,
Ты любоў мая непагасная.

### ПРЫЧЫНА

Маці пытае ў малога сына:
— Чаму твой ручнік такі брудны?
— Таму што нядаўна я выціраў ім твар.
— А чым ты так забрудзіў свой твар?
— Ручніком.

### ПАМЫЛКА

Вучань чацвертага класа прыбег са школы і з цікавасцю зірнуў на стол, на якім ляжала толькі што купленая бацькам кніга: «Гегель».
— Гэта ж трэба! — здзівіўся хлопчык. — У адным слове аж дзве памылкі: трэба напісаць «Гогаль», а яны напісалі «Гегель»...




### ГРАФАЛОГ

Славуты французскі пісьменнік Анорэ Бальзак верыў, што характар чалавека можна пазнаць па яго почырку.
Неяк адна дама паказала яму ліст, напісаны дрэнным почыркам, і папрасіла:
— Паглядзіце, калі ласка, на гэты почырк і скажыце пра характар і будучае аўтара. Каб аблегчыць вашу місію, скажу, што пісьмо пісаў дванаццацігадовы хлопчык.
Бальзак сказаў:
— Спачатку я задам вам пытанне. Вы — маці гэтага хлопчыка?
— Не.
— Добра, тады я магу гаварыць з вамі шчыра. На жаль, гэты хлопчык вельмі лянівы і поспеху ў жыцці не даб'ецца.
Дама засмяялася.
Бальзак здзіўлена спытаў:
— Чаго вы смеяцеся?
— Гэта пісьмо пісалі мне вы, калі вам, месье Бальзак, было дванаццаць гадоў...

### МЕСЯЦ БЛІЗНЯТ

Май у Венгрыі лічыцца «месяцам блізнят». Па даўняй традыцыі ў адзін з майскіх дзён на спецыяльна арганізуемую ў Будапешце сустрэчу запрашаюцца блізняты з усёй краіны. Для іх арганізуецца вясёлая забаўная праграма, наладжваецца вячэра.
Летась у сталіцу з'ехаліся сто блізнят з розных гарадоў і сёл Венгрыі. Паколькі склікаць усіх жадаючых не было магчымасці, запрашэнні разыгрываліся па латарэі. Выключэнні былі зроблены для некаторых «унікальных» пар. Так, сярод ганаровых гасцей сустрэчы знаходзіліся Олівер і Пал Юхашы, якія нарадзіліся 4 красавіка 1945 года — у дзень вызвалення Венгрыі Савецкай Арміяй. Самымі пажылымі ўдзельнікамі сустрэчы былі 73-гадовыя Іожэф і Маргіт Краусы.




*Многія нараджаюцца людзьмі, а паміраюць асламі.*